№ 101 Ausgabe B.

# ГОМАН

Цэна с перэсылкай і дастаукай да хаты: на 1 год—4 м. 80 фэн., на ½ году—2 м. 40 ф., на 3 месяцы—1 м. 20 ф., на 1 мес.—40 фэн.

Беларуская Віленская часопісь
выходзіць два разы у тыдзень: у аўторкі і пятніцы.

Адрэс рэдакцыі: Вільня, Завальная 7.
Адрэс адміністрацыі і экспэдыцыі: М. Стэфанская 23.

Цэна абвестак: на 4-ай старане за радок дробнымі літэрамі — 25 фэніг.; дробные абвесткі — па 5 фэн за слова. Абвесткі аб сьмерці — 60 фэн. за лінейку дробн. друкам.

№ 101 (193). Год II. Вільня, 18 сьнежня 1917 г. Цэна 5 фэн. (3 кап.).

# Замірэньне на 28 дзён.

## 17 сьнежня.

**Заходні тэатр:**

*Фронт Рупрэхта Баварскаго*: На палудзенным беразі Скарп і на паадзінокіх адрэзках на поўдні ад Камбрэ жывейшая баевая чыннасць. Сільны артылерыйскі і мінамётны агонь на фронці на палудні ад С. Кантэн.

*Фронт Альбрэхта Віртэмбэрскаго*: На поўначы ад С. Мель і ў палудзенна-заходнім Эльзасе—ажыўленая чыннасць францускай арміі.

**Македонскі фронт.**

Між Вардарам і Дойранам адкінута англіцкая рота.

**Італьянскі тэатр.**

Між Брэнтай і Піявэ на паадзінокіх адрэзках вострые артылерыйскіе бітвы. На поўдні ад Каль Капрыле аўстрыяцкіе войскі ўзялі некалькі сот палонных. Італьянскіе наступленьня на поўдні ад Монтэ Фонтана Сэкка адбіты.

---

ПЕЦЯРБУРГ (П.Т.А.). 15 сьнежня на Каўказе адбылася вострая бітва між туземцамі і казакамі.

„День“ піша, што Каледзін адмовіўся паслаць казакам падмогу, бо яго ўласнае палажэньне вельмі сур'ёзнае

ПЕЦЯРБУРГ. (П.Т.А.) Усерасейскі Конгрэсс дэпутатаў, загадываючых справамі стравараньня, прыняў усемі галасамі рэзолюцію, высказываючы сваю ахвоту працаваць пад кіраўніцтвам народных камісараў.

ПЕЦЯРБУРГ (П.Т.А.). У Іркуцку адбыўся з'езд рад і дэпутатаў ад работнікоў, селян і салдатаў з усяе Сібіры. Было 187 дэпутатаў. З'езд высказаўся за перэдачу ўраз-жэ ўсяе ўласьці радам. Левые с пратэстам пакінулі салю.

ШТОКГОЛЬМ. Паводлуг вестак пецярбурскіх і кронштацкіх газэт устаноўчы сэйм ня мог адкрыцца 11. XII с тэй прычыны, што сабралося лішне мала дэпутатаў.

БЭРН. Міністэр Гэндэрсон у сваей прамове ў Лёндоне сказаў: Большая часць народу думае, што вайна не павінна скончыцца да англіцкай пабеды, якая зрабілабы немагчымай новую вайну. Была-бы страшэнная рэч, калі-б вайна с прычыны недаразуменьня ці недастатачнай шчырасьці зацягнулася хоць на адзін дзень больш, чым трэба. Урады Англіі і саюзьнікоў павінны заявіць, што іх мэты — моральные, а не матэр'яльные, і што яны змагаюцца за вялікі прынцып, а не за Мэзопотанію ці іншую зямлю.

ВЕНА. 16.XII. Імператар Кароль прыехаў сягоньня паабедзі і быў доўга у міністра загранічных спраў.

КАНСТАНТЫНОПОЛЬ. Міністэр заграні чныч спраў, Нэсімэй-Бэй, і памочнік штатс-сэкрэтара, Гікмэт-Бэй, выехалі ў Бэрлін.

БЭРН. З Мадрыда наказуюць, што кароль, паводлуг рады міністра, пастанавіў распусьціць гішпанскі парлямэнт.

БЭРЛІН. (В.Т.Б.). У поясе блокады навакол Англіі ізноў затоплена 21,000 тонн.

---

## Перэгаворы аб замірэньні.

ПЕЦЯРБУРГ (П.Т.А.). 28 лістапада (11 сьнежня) наша мірная дэлегація прыбыла у Брэст-Літоўск і 12 сьнежня сустрэцілася з дэлегаціямі цэнтральных дзержаў. Апрыч упаўнамочэных радай народных камісараў, прэдстаўнікоў палітычных партый ў нашай дэлегаціі былі прэдстаўнікі арміі і флота. Аб некаторых пунктах дайшлі угоды на першых заседаньнях. Буржуазные партыі трубілі аб неўдачы гэтых перэгавораў, але аказаліся горка расчараванымі. Іх фальшывая кампанія будзе выясьнена ва ўсіх падробнасьцях. Выдумкі іх аб ачыстцы Пецярбурга, аддачы Фінляндзіі і ўзяцьці фронту на 100 вёрст назад зразумее кожын чалавек, у катораго ёсць розум. Перарыў на тыдзень мы выкарысталі дзеля таго, каб ешчэ раз звярнуцца да саюзьнікоў і пролетарыату і салдатаў у Расеі. Рада народных камісараў прэдлажыла саюзным старонам прыняць учасьце ў мірных перэгаворах, але ніякай адповедзі не атрымала. Адказ за гэта пацзе на іх. Расейская дэлегація паехала дзеля далейшых перэгавораў аб замірэні. Яна выехала, апіраючыся на пабедную сілу рэволюціі, работнікоў і селян. Яна выехала, каб прымусіць змоўкнуць гарматы і апусьціць стрэльбы на ўсенькім фронці ад Чорнаго да Балтыцкаго мора. Расейская дэлегація давядзе да канца пачаўшыеся перэгаворы аб замірэньні. Яна прадоўжыць пачатае не як зваеваны, каторы паддаецца, а як паўнамочны предстаўнік стараны і цьвёрда стаячаго народу, на каторы звернены вочы мільёнаў і дзесяткаў мільёнаў работнікоў і селян усяго сьвету.

БЭРЛІН. 14. XII. **Урадова.** Перад і пасьля абеду 13 сьнежня у Брэст-Літоўску адбыліся заседаньня ўсіх членаў камісіі, на якіх і была гутарка аб паадзінокіх пунктах праектаў замірэньня абедзьвых старон. 14 снежня раніцай перэгаворы вяліся далей.

БЭРЛІН (В.Т.Б.). 15.XII. На заседаньні ўсіх членаў, адбытым 14.XII перад абедам, аканчацельна апрацован тэкст некаторых варункаў умовы аб замірэньні. С прычыны таго, што ў некаторых пытаньнях расейская дэлегація хацела атрымаць інструкціі ад свайго ураду, чароднае агульнае заседаньне назначэно на 15.XII перад абедам. 14.XII пасьля абеду адбылося заседаньне пратакольнай камісіі.

**БЭРЛІН. (В.Т.В.) 16. XII. Прэдстаўнікі расейскай главнай каманды — з аднаго боку і прэдстаўнікі главных каманд Нямеччыны, Аўстрыі, Турэччыны і Боўгарыі — з другога падпісалі 15 сьнежня у Брэст-Літоўску умову аб замірэньні. Яно пачынаецца 17 сьнежня ў палудзень і мае сілу да 14 студня 1918 году. Калі за 7 дзён перад канцом замірэньня ня будзе заяўлено жаданьне прадоўжыць яго, дык яно трывае далей само сабой. Яно абнімае ўсе сухапутные, марскіе і лятучые сілы супольнаго фронту.**

**Паводлуг стацьці 9 умовы, цяпер пачынаюцца перэгаворы аб міры.**

ФОКШАНЫ. Генэрал Шчэрбачов зрабіў дачэснае замірэньне між румынскім войскам — з аднаго боку і нямецкім, аўстрыяцкім, боўгарскім і турэцкім — з другога.

БЭРЛІН (В.Т.Б.). Аб апавешчэнай Рэйтэрам вестцы аб самагубстве расейскаго генэрала Скалона пасьля прыезду яго у главную кватэру мы даведыемся гэткіе падробнасьці:

У часі падарожы расейскай дэлегаціі у главную нямецкую кватэру генэрал Скалон горача гутарыў з другімі членамі яе. Праз некалькі гадзін пасьля прыезду, перад самым пачаткам агульнаго заседаньня, ён выйшоу у свой пакой, каб прынесьці карту. Тут знайшоў яго застраліўшымся нямецкі афіцэр, прыкамандзірованы да расейскай дэлегаціі. У сваім пісьме, жэгнаючыся з жаной, генэрал не тлумачыць прычыны самагубства. Расейскіе дэлегаты думаюць, што гэта было зроблено ад устрасеньня нэрваў. У часі перавозкі цела памершаго, праводжэнаго расейскімі сьвяшчэнікамі, нямецкіе войскі выказалі ваенные знакі пашаны.

ЛОНДОН. (Рэўтэр). Льлёйд Джордж у аднэй сваей прамове на банкеці між іншым сказаў: «Мы жывем у нешчасьлівым часе: Расея грозіць пакінуць вайну і аставіць францускую дэмократыю сабе самой. Крок Расеі толькі зацягне сусьветную вайну і немінуча аддасьць Расею ў путы нямецкаго мілітарызму. Калі ворагі здалеюць узяць з усходняго фронту сотні тысяч салдатаў і массы ваенных матэр'ялоў, каб напасьці на Францію, Англію і Італію, дык гэта для іх вялізарная помач. За-

слаўные беларускіе „бэтлейкі“ нанова ажывіць. Пачатак роўна а 5 ай гадзіне вечэра.

× **Беларуская Народная Страўня № 31**, адкрытая Беларускім Камітэтам помачы пацярпеўшым ад вайны 6 ліпня 1917 году, выдала да 12 сьнежня бедным 13.886 безплатных абедаў.

Цяпер страўня выдае безплатные абеды 95 асобам.

× **Памяці слаўнаго скрыпача.** У панядзелак, 17 сьнежня, у Катэдры ядбылася імша па знаменітым скрыпачу і композытары зямлі нашай, Каролю Ліпінскім, радзіўшымся ў Рудзыні, на Падляшы.

× **Пагода ў лістападзе.** Апошні восенскі месяц лістапад быў сёлета вельмі туманны і дажджлівы. Цэлых 19 дзён былі дажджлівые, даўшы водных асадкаў найменш 0,1 мілім. Усяго асадкаў за месяц было 64,9 мілім. Найбольш мокры дзень быў 29, даўшый 16,9 мілім. Шесць дзён падаў і сьнег. Першы сьнег выпаў 16. 21 сьнегу нападало на 1 цэнтым., але назаўтра ён счэз. За ўвесь лістапад неба зусім ачысьцілося ад хмар толькі адзін раз: 12-го у вечары. Туманных было 9 дзён. Асабліва густы туман быў 13, трываўшый цэлы дзень. Іней быў 29 у вечары.

Сярэдняя тэмпэратура ў лістападзі, само сабой, панізілася, але стаяла йшчэ вышэй 0°. Сярэдняя тэмпэратура была:

а 7 гадз. раніцы + 3,3°
„ 2 „ ў дзень + 4,2°
„ 9 „ вечара + 3,6°

Сярэдняя агульная тэмпэратура за месяц: + 3,7°. Найвышэйшая тэмпэратура была 29 а 9 гадз. веч.: + 10°. Найніжэйшая — 27 го а 7 гадз. раніцы: — 4°. Марозных дзён было 7; першы мароз быў 12-го. Найбольш халодны дзень — 27: сярэдняя тэмпэратура для яго была — 0,9°.

× **Аб гэрбовы збор.** Stadthauptmann апавешчае, што значнае чысло гаспадароў і упраўляючых іх ня клеюць гэрбовых марак на умовы аб арэндзі кватэр. Stadthauptmann прэдлагае ім дзеля сваей жэ карысьці зрабіць гэта ўраз у местовай кассе.

× **Безпанскі конь.** 7-го сьнежня на Вясёлай вуліцы спынуўся безпанскі конь. Даведацца у Stadthauptmann'а, пакой 122.

× **Тэмпэратура.** Найвышэйшая і найніжэйшая тэмпэратура за апошніе дні была па Цэльсію):

| | найвыш. | найніж. |
|---|---|---|
| 12—13 | — 4,5° | — 7,5° |
| 13—14 | + 1,5° | — 4,5° |
| 14—15 | + 4° | — 0° |
| 15—16 | — 1° | — 3,2° |

## З усяго Краю.

СЬВІСЛОЧ. Заявы кандыдатаў на чацьвёрты курс дзеля падгатоўкі вучыцелёў для беларускіх народных школ у сьвіслочскай сэмінарыі прынімаюцца ва ўсіх Krejsamtach і местовых упраўленьнях.

ВЫСОКІ ДВОР. У сярэдзіне ліпня дзяўчына Хрыстына Узялко ўтапіла сваё няшлюбнае дзіця 2 гадоў у тутэйшым возеры. Перад судом яна заявіла, што бацька дзіцяці знаходзіцца ў Расеі, а яна з дзіцём не магла дастаць мейсца. Акружны суд прызнаў забойство пляновым і з раздуммем, аднак прыняў пад увагу змягчаючые акалічнасьці і назначыў найменьшую кару: 10 гадоў папраўчаго вастрогу.

СУВАЛКІ. Тут аснавалося драматычнае таварыство дзеля арганізацыі сцэнічных спэктаклёў.

ОЛІТА. У лесі каля двара Цэлінін уласьці злавілі разбойніцкую банду с 4 душ. Іх узялі ў пячоры, дзе яны жылі. Тамака знайшлі 4 стрэльбы, некалькі рэвольвэроў, шмат палатна і стравы. Пяты член банды, катораго пры гэтым не было, самахоць прыйшоў назаўтрае ў паліцію.

## Офіцыяльны аддзел.

### Апавешчэньне.

**1,000 марак награды.**

4 сьнежня 1917 г у лесі каля вёскі Скірмунты, Шавельскаго пав., знайшлі двух забітых нямецкіх салдатаў

Хто задзержыць ліхадзеёў або магчымых супольнікоў іх, ці дасць ведамасьці аб іх асобах і мейсцы укрыцьця, памагаючы гэтак арэштаваць і пакараць іх, таму дадуць награду да 1,000 марак.

Усе ведамасьці трэба падаваць п. Krejshauptmann у Шаўлях, або найбліжэйшай жандарскай варце. Цяжкіе кары ждуць кожнаго, хто дасць ліхадзеям ці супольнікам іх схоўку, ці іншую помач.

Вільня, 7 снежня, 1917 г.

Der Chef der Militär Verwaltung Litauen
Franz Joseph Fürst von Isenburg-Birstein.

## ВЕСТКІ З РАСЕІ.

ПАРЫЖ. «Temps» пішэ, што Троцкій паслаў саюзьніцкім урадам новае ультіматум, трэбуючы да 12 сьнежня адказу на мірнае прэдлажэньне. «Temps» з гэтай прычыны кажэ, што саюзьнікі ніякаго адказу не дадуць. Трэба выждаць пакуль не установіцца законны урад і пакуль установчы сэйм не абернецца ў правамочнае прэдстаўніцтво народу.

ПЕЦЯРБУРГ ((П.Т.А.). На моцы згоды англіцкаго пасла апавешчаецца:

С прычыны арэшту англіцкім урадам Чычэрына, Петрова і іншых асоб англіцкі урад заяўляе, што ён гатоў ешчэ раз перэглядзець пытаньне аб павароці іх у Расею. С прычыны гэтай формальнай заявы народны камісар Троцкій загадаў, каб англіцкім падданым не рабілі прашкод пры выезьдзі з Расеі.

Гэтак сама ўдачна развязано пытаньне аб дыплёматычных кур'ерах. Буканэн спадзяецца, што ён даб'ецца ад англіцкаго ураду права для расейскіх кур'ераў прыежджаць у Англію і праежджаць праз яе.

ПЕЦЯРБУРГ (П.Т.А). Урад выдаў гэткі дэкрэт:

Галовы кадэцкіх організацій, як ворагі народу, павінны быць арэштаваны і аддадзены пад суд рэволюцыйных трыбуналаў. Мейсцовые рады раб. і салд. павінны завясьці нагляд над кадэцкімі організаціямі с прычыны іх супольнай працы с Каледзіным і Корніловым Дэкрэт гэты мае сілу ўраз.

ЖЭНЕВА. Сіла Каледзіна слабеець. Між яго староннікамі выяўляецца нездавольство зносінамі яго с Корніловым.

ПЕЦЯРБУРГ (П.Т.А.). Войскі Корнілова разбіты дружынамі „чырвонай гвардзіі“. Корнілов уцёк і Каледзін ачысьціў Калугу, якую заняло урадовае войска.

Чорнаморскі флот стаіць на старане ураду і паслаў проці Каледзіна мінаносцы ўверх па Доне.

ПЕЦЯРБУРГ (П.Т.А.). Ростов, Нахічэвань, Таганрог, — у руках рэволюцыйных войск. Генэрала Патоўскаго староннікі Каледіна, арэштавалі разам з яго штабам.

Каледзін паслаў местоваго галаву Ростова с прэдлажэньнем спыніць ваенные апэрацыі.

ШТОКГОЛЬМ. Расейскі пасол атрымаў тэлеграму с Пецярбурга, што Каледзін арэштаван пад Масквой.

ПЕЦЯРБУРГ (П.Т.А.). У часі выбароў у установчы сэйм пададзены:

У 12 арміі за большэвікоў — 202.000 галасоў, за соц.-рэвол. — 122.000, за украінцоў—3.000, кадэтаў—6.000, нацыон. меньшэвікоў—2.500, інтэрнацыон. меньш.—1.700.

У 5 арміі за тыеж партыі — 145 000, 45.000, 25.000, 4.000, 1.200, 1.200.

У войску ў Фінляндзіі — за тыеж партыі 208.000, 11.000, 12.000, 700, 380, 293.

У Калужскай губэрні на першым мейсцы стаяць большэвікі, на другім—соц.-рэв., на трэйцім—кадэты. Аднак, у самай Калузе перэважылі кадэты.

У Эстляндзіі выбраны 4 большэвікі і 2 латышскіе дэмократы.

У Валадзімерск. губ. — 6 большев., 3 соц.-рэв.

У Кастрамской—4 больш. і 4 іншых партый.

У Пскоўскай—3 больш., 5 соц.-рэвол.

У Вітэбскай—6 больш., 3 соц.-рэвол.

У Пензенскай—8 соц.-рэв.

У Калужскай—5 больш. 3 соц.-рэвол.

У Тамбоўскаў—12 соц.-рэв., 3 больш.

ПЕЦЯРБУРГ(П.Т.А.). Кадэты зрабілі перад Таўрыдзкім палацам дэмонстрацію, на якой было некалькі тысяч душ. Каля 30 асоб уварваліся ў Таўрыдзкі палац, і аб'явілі сябе за членаў установчаго сэйму. Усё гэтае здарэньне вызвало толькі сьмяхотнае уражэньне.

---

ладзіць работу на правінціі... Пасылаюць... Правінція спіць.. Німа арганізацыі.

**Людвіка.**—Цс!.. Мама ідзе! (вертаецца да сваей работы)

**Матка** (ўходзіць с талеркай і міскай).—Вось маеце, пан Ягор, сваю вячэру...

**Ягор.**—Дзякую, панічка...

**Матка.**—Што-ж вы сягоньня так позненька? Работа на хвабрыцэ мусіць даўно ўжо скончэна?

**Ягор.**—Меў інтэрэсы... Заўтра еду, панічка!

**Матка.**—Едзеце? Як?.. Куды?.. А якжэ-ж с кватэрай будзе?

**Ягор.**—Заплачу пані за цэлы месяц і можэце мой пакой аддаць каму іншаму.

**Матка.**—Ну добра...—А якжэ-ж хвабрыка, работа? кідаеце?

**Ягор.**—Кідаю, пані. Еду на вёску... да радні.. Пісалі, просяць, каб прыехаў пагасьціць...

**Матка**—Вось гэта добра! Шчасьлівы вы, што маеце, куды паехаць! Часы цяпер такіе неспакойные,—чэлавек ня ведае, што заўтра будзе... Як вы, панок, думаеце, як усё гэта кончыцца?

**Ягор.**—Што-ж, добра скончыцца. Усё добра будзе, як рабочы народ завядзе новы лад.

**Матка.**—Э, які там „новы лад“! Нічога тут не парадзімо! Там сіла, там войска, а тут што?—голые рукі!..

**Ягор.** (усьмехаючыся)—Панічка! Гэтые голые“ рукі—так сама сіла, сташэнная сіла! Гэтые голые, мазалістые рукі будуюць і царскі палац і турму для свайго брата Гэты рукі сеюць хлеб і будуюць чыгункі, каб развазіць яго (З гэстам): Гэтым рукам, панічка, пазволено адпачываць толькі адзін раз ў тыдні, а што будзе, калі гэтые рукі ня возьмуцца за работу праз цэлы тыдзень, а мо' праз другі, праз трэйці?!. Што, калі мы іх зложым вось так на грудзях (гэст) і скажэм: давайце нам іншае жыцьцё, давайце, паны, волі, бо дышаць ужо чым не маем, давайце, бо вось так стаяць будзем, а да працы ня пойдзем! Падохнем з голаду, а і вы з намі разам падохнеце!.

**Матка.**—Гаварыць, то вы ўсе пекна гаворыце.. Што-ж, калі гэта ўсё толькі гутарка. Ніколі гэтаго ня будзе!

**Ягор** (с пераконаньнем).—Будзе, панічка.

**Матка.**—Ня будзе!.. Адных пасодзяць у турму, іншых вышлюць, а іншых нават расстрэляюць, а рэшта—супакоіцца... Шмат сьлёз і крыві толькі дарма праліецца—вось, што вы зробіце! І на што, каму патрэбны гэты ахвяры?!

**Ягор.**—Без ахвяр нічога ня зробіш, пані! Уселякая новая справа вымагае ахвяр. Без ахвяр не абыйшоўся ніякі перэварот.., Але!.. але! многіе з нас згінуць, многа крыві праліецца, многа ў турмах, або у ссылцэ загубяць свае жыцьцё, — а ўсёж такі наш верх будзе! нашым сынам за тое лягчэй будзе жыць.

**Матка.**—Эх, ня веру! Гутарка, толькі гутарка!.. З матыкай на сонцэ кідаецесь! вось усё! Шкада мне вас, пан Ягор! У вас, бачу, так сама, як і ў іншых, у галаве перавернута! Такі малады, такі разумны вы чэлавек; вы бы маглі так добра наладзіць свае жыцьцё!.. На мой стары розум, нічога з гэтаго ня будзе. Шкада сіл, шкада ахвяр!

**Ягор.**—Не шкадуйце, пані! Жыць для ідэі і нават згінуць з вялікім клічэм на вуснах—гэта так сама шчасьце!.. Э, што тут гутарыць, (усьмехаючыся) мы з вамі ніколі не згаворымся!.

**Маткі** (сумна).—Шкада мне гэтых матак, сыны каторых так марна што дзень гінуць!

**Ягор.**—І многа ешчэ згіне, пакуль сонцэ волі заясьнее — а ўсё-ж наш верх будзе!

**Матка**—Эт, вас не перэканаеш (Зьмяніўшы тон): Так вы напраўду значыць едзеце?

**Ягор**—Еду, пані! (дастае грошы). Я вам за паўмесяца заплаціў ужо, значыць належыцца ешчэ за паўмесяца? Так? Крыўды ніякой німа, панічка?

**Матка** (бярэ грошы). — Ды не, добра, ўсё добра.. Як раз я пасьпела прад выездам прыгатовіць вашу бялізну.

**Ягор.**—А, гатова бялізна? Добра. Колькі належыцца?

**Матка.**—Людвіська! Падай пану Ягору яго бялізну!.. Рубель сорак...

(Далей будзе).

БЭРН. „Daily Chron.“ наказуе с Пецярбурга:
Дэпартамэнт судоў загадаў аддаць пад суд Керэнскаго за прадоўжэньне вайны на аснове тайных умоў.

КОПЭНГАГА. Ніводнаго с членаў устаноўчаго сэйму не дапускаюць у Таўрыдзкі палац, калі ён не мае заверэньня, падпісанаго большэвіцкімі народнымі камісарамі. Палац акружэн некалькімі ротамі.

# З усяго сьвету.

ЛОНДОН. Парлямэнцкая камісія на конгрэссі прафэсыональных саюзаў і работніцкіх партый прыняла гэткую рэзолюцію:
Англіцкі урад павінен паводлуг магчымасьці ўраз апублікаваць заяву аб сваіх ваенных мэтах.

МАДРЫД. Прэзыдэнт Партугальскай рэспублікі выйшоў у адстаўку. Экстрэным поездам яго вывязуць заграніцу.

БЭРН. На 1918 год выбраны: Календэр — за прэзыдэнта, Мюльлер — за віцэ-прэзыдэнта Швайцары.

# ТЭЛЕГРАМЫ.

**Нямецкіе апавешчэньня:**

**14. XII. Заходні тэатр:**

*Фронт Рупрэхта Баварскаго:* На ўсходзі ад Біличур англічане памыкаліся адабраць узятые ў іх акопы, але былі адбіты с крывавымі стратамі.

**На іншых фронтах**—нічога выдатнаго.

**15.XII. Заходні тэатр:**

На поўначы ад Гелювэльт узяты ў палон 2 англіцкіе афіцэры і 45 салдатаў. Ад Скарп да Уаз ажыўленая чыннасць ворагоў.

**Італьянскі тэатр:**

У бітвах апошніх дзён між Брэнтай і П'яве ўзяты ў палон 40 афіцэраў і больш за 3.000 салдатаў, некольні гармат і кулемётаў. Контратакі адбіты.

**16.XII. Заходні тэатр:**

Ля замку Пучэльгук мы пасунулі ўпярод нашы лініі і ўзялі палонных. Ад Скарп да Уаз—ажыўлены артылерыйскі агонь. Пры Моншы і Камбрэ артылерыйская бітва дайшла вялікай сілы.

**Македонскі фронт.**

Ажыўленая чыннасць англічан між Вардарам і возерам Дойран.

**Італьянскі тэатр.**

Аўстрыяцкіе войскі здабылі італьянскіе пазыціі на поўдні ад Коль Капрыле і ўзялі ў палон некольні сот салдатаў, у тым ліку 19 афіцэраў.

## Аустрыяцкіе апавешчэньня.

ВЕНА. 13. XII. **Італьянскі тэатр:** Войскі фэльдмаршалка Гэтцэндорфа ў 4-дзённых бітвах у ваколіцах Мэлетты ўзялі ў палон 639 афіцэраў і больш за 16.000 салдатаў, здабылі 93 гарматы, 233 кулемёты, 4 мітральезы, 8 мінамётаў і шмат ваенных матэр'ялаў.

## КАЛЯ ВАЙНЫ.

БЭРЛІН. Ад 12 сьнежня 1916 году — дня першаго прэдлажэньня міра нямецкім імператарам — выдаткі на вайну па сягоньняшні дзень становяць: у Англіі — 53 мільярды, Франціі — 35,3, Расеі—46, Італіі — 12,2, Амэрыцэ—53,1,— разам у ўсіх саюзьнікоў 200 мільярдаў. Выдаткі Нямеччыны становяць 36 мільярдаў, Аўстро-Вэнгрыі — 13,7, Турэччыны — 0,66, Боўгарыі — 0,64, — усяго у цэнтральных джэржаў 56 мільярдаў.

ЛОНДОН. (Рэўтэр). На заседаньнях у Парыжы 29 і 30 лістапада было пастаноўлено утварыць раду адміралаў саюзьніцкіх старон. Гэта марская ваенная рада будзе складацца з ваенных міністраў і адміральных штабаў Англіі, Франціі, Італіі, Амэрыкі і Японіі.

БЭРЛІН. (В.Т.Б.). Адна з нашых падводных лодак ізноў затапіла навакол Англіі 36.000 тонн.

БЭРЛІН. (В.Т.Б.). У канале Ляманш нашы падводные лодкі ізноў затапілі 15.000 тонн.

БЭРЛІН. (В.Т.Б). Адна з нашых падводных лодак у Атлянтыцкім акіане і Ірляндзкіх водах затапіла ізноў 4 параходы ёмкасьцю разам 18.000 тонн.

БЭРЛІН. (В.Т.Б.). У Сяродземным моры падводнымі лодкамі ізноў затоплены 12 параходаў і 6 парусьнікоў ёмкасьцю разам больш за 50.000 тонн.

# Спісак беларускіх кніжак.

Ведаючы цану кнігі, найлепей прысланць грошы наперад — гэтак таней каштуе перасылка.

(Кніжкі азначэные *біс* — выйшлі і лацінскімі і «рускімі» літэрамі.

## Навуковые даступные для усіх.

| | Цэна руб. | кап. |
|---|---|---|
| біс Ян Баршчэўскі, першы беларускі пісменнік. Біографічны нарыс Р. Зэмкевіча | — | 20 |
| Praktyčnye rady ab harodnictwie | — | 7 |
| Гутаркі аб небі і зямлі з рысункамі | — | 15 |
| Цукер, В. Тройцы | — | 3 |
| Гутаркі аб гаспадэрцы | — | 3 |
| Як ратаваць уздутую жывёлу | — | 3 |
| Як бараніцца ад халеры | — | 1 |
| Як рабіць добрые рамовые вульлі | — | 5 |
| Зямельная справа у Новай Зэляндыі | — | 3 |
| Кароткая гісторыя Беларусі—Власта | — | 6 |
| Bł. Andrej Bobola mučynik | — | 50 |
| Pčalina—żywiołka małaja a karyści daje mnoha | — | 10 |
| Як багацеюць чэскіе селяне | — | 30 |
| Як выбіраць дэпутатоў у Гас. Думу | — | 20 |
| На дарозе да новаго жыцьця. А. Новіны | — | 2 |
| Alkahol | — | 3 |
| Rady dla matak | — | 3 |
| Św. Jozafat Kuncewič | — | 3 |
| Našto bielarusam gazety | — | 10 |
| Колькі слоў аб дзявочай опратцы на Беларусі | — | 3 |



Друкуецца і скора выйдзе з друку

# Беларускі Календар на 1918 г.

Абвесткі прынімаюцца у Бібліотэцы „Знаньне“, Віленская вул. 33, што-дзень ад 3 да 5 гадз.



Друкавана у друкарні М. Кухты. Выдавецтва «Гоман». Редактар Язэп Салавей.